# ПАГОНЯ

Чацвер
27 траўня 1999 г.
№ 36 (413)
Кошт 20.000 руб.


## Палякам няма месца ў Гродне

**Улады Гродна адмаўляюць Саюзу палякаў Беларусі (СПБ) у прадастаўленні памяшканняў для правядзення ягоных мерапрыемстваў. Як паведаміў старшыня СПБ Тадэвуш Гавін, «атрымалася, што для правядзення мерапрыемстваў нашай арганізацыі ў горадзе практычна няма месца».**

Паводле яго словаў, Гродзенскі гарвыканкам тройчы адмовіўся прадаставіць памяшканні для правядзення рэспубліканскай нарады па падвядзенні вынікаў культурна-асветніцкай дзейнасці аддзелаў СПБ за 1998 год. Прычым, як адзначыў Т.Гавін ім было адмоўлена ва ўсіх буйных залах горада — у тым ліку абласнога драматычнага тэатра і гарадскога дома культуры, хаця з кіраўніцтвам гэтых установ была дасягнута папярэдняя дамоўленасць аб арэндзе гэтых памяшканняў і яе кошце. Прыкметна, што прадстаўнікоў СПБ не пусцілі і ў залу гродзенскай сярэдняй школы N 36, пабудаванай на сродкі Саюза і сусветнай польскай дыяспары.

«Аднак гэтым улады нас не спыняць: мы прывязём 150 стулляў з Баранавічаў (Брэсцкая вобласць) і будзем праводзіць нараду недзе на лясной паляне, як у пачатку стагоддзя бальшавікі праводзілі травеньскія сьвяты», — заявіў Тадэвуш Гавін.

На яго думку, улада сама прымушае дзейнічаць іх такімі метадамі, «якія нагадваюць перыяд стварэння СПБ, калі ў канцы 80-х гадоў першую сустрэчу палякі праводзілі ў лесе».

## Дошка ў гонар высокародных

**25 траўня ў Гродне адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця памятнай дошкі ў гонар палякаў, браўшых удзел у стварэнні першай польскамоўнай школы на Беларусі.**

У надпісе на дошке адзначаецца высакародная прадстаўнікоў сусветнай польскай дыяспары, якія адгукнуліся на заклік «Польскага радыё» і варшаўскага аддзялення «Таварыства сяброў Вільні і Гродна» і дапамаглі пабудаваць і поўнасцю абсталяваць памяшканні гродзенскай сярэдняй школы N 36, дзякуючы часу ў дзяцей з'явілася магчымасць вучыцца на роднай мове.

Ва ўрачыстасцях бралі ўдзел былы прэм'ер-міністр Польшчы Уладзімеж Цімашэвіч, які адкрываў гэтую школу ў 1996 годзе, а таксама старшыня праўлення «Польскага радыё» Станіслаў Папелэк. Паводле яго словаў, «Польскае радыё» і надалей будзе аказваць дапамогу і супрацоўнічаць з першай польскамоўнай школай на Беларусі. С.Папелэк запрасіў 12 вучняў школы на летні адпачынак у Польшчу.

**Марат Гаравы**

## Ушэсце Юрыя Качука

**20 траўня, якраз на Ушэсце Гасподне, старшы супрацоўнік Зэльвенскай філіі навучання пажарнай бяспецы Юрый Качук атрымаў загад аб скарачэнні сваёй пасады.**

Спадар Юрый, канешне, аніяк не звязвае тое, што яго «ушлі» з пакутамі Ісуса Хрыста. Ён лічыць, і не без падставаў, што на гэтае рашэнне начальства паўплывала не рэлігія, а помста за тое, што іхні падначалены прымаў актыўны ўдзел у дзеяннях апазіцыі існуючаму рэжыму. Кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення, стала тое, што 16 траўня ў сябе на кватэры Ю.Качук арганізаваў выбарчы ўчастак па выбарах прэзідэнта Беларусі.

Аж сямі міліцыянтам давялося ўдзельнічаць у «штурме» кватэры, перш чым нейтралізаваць яго...

Сёння адзіны карміцел у сям'і (Ю.Качук жаната, расце дачка) суцяшае сябе тым, што тэрмін яго знаходжання ў структуры Міністэрства па надзвычайных сітуацыях заканчваецца ў той самы дзень, што і тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Лукашэнкі.

**Ул.інф.**




**28 і 29 траўня** - пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер няўстойлівы, 2-7 м/с. Тэмпература паветра 28 траўня ўначы +3...+8, удзень +18...+23; 29 траўня ўначы +6...+11, удзень +21...+26.



Фота IREX/ProMedia

Цвітуць каштаны...

# Маральны выбар

**Чалавечы досьвед і мудрасьць сьведчаць: нічога нельга пабудаваць на хлусьні, акрамя хлусьні, і нічога не пабудуеш на нянавісьці, апрача нянавісьці. Гэтыя ісьціны унівэрсальныя. Яны выяўляюцца ў палітыцы, у асабістым жыцьці, у гісторыі.**

Па адносінах да хлусьні вызначаецца ўзровень асобы, характар улады і мараль грамадзтва. Ня стану нагадваць гістарычныя прыклады і паралелі. Зьвернемся да рэчаіснасьці.

Грубае парушэньне Закону і адкрытая, дэманстратыўная фальсыфікацыя галасаваньня кіраўніком Цэнтральнай Выбарчай Камісіі В.Ганчаром сталі відавочнымі для кожнага, хто жыве ў Беларусі і хто назіраў за прэзідэнцкімі выбарамі. Тым ня менш - адносіны розныя. Прычынаў некалькі, але выбар адзін - маральны.

Палітычныя прычыны паводзінаў (якія менш істотныя ў гэтай сытуацыі) абумоўленыя псыхалёгіяй часткі грамадзтва, якое няздольнае больш цярпець рэжым і гатовае пайсьці на ўсё, «абы зваліць» Лукашэнку.

У 1994-м годзе спрацавала гэтая ж самая псыхалёгія: «абы ня Кебіч». У другім туры галасаваньня нават некаторыя палітычна сьвядомыя людзі галасавалі тады за Лукашэнку, бо - «абы ня Кебіч».

Не павінна быць бяздумных паводзінаў у палітыцы тыпу «пустая папера» ці «абы зваліць». Бо «зваліваюць» заўсёды ў нечых інтарэсах. Калі свой інтарэс не забясьпечаны і дзейнічаць толькі па нянавісьці, гэта азначае стаць сьляпой зброяй чужых інтарэсаў. Вынік такіх паводзінаў для бяздумных заўсёды адзін і той жа: з агню - ды ў полымя.

Калі інтарэс забясьпечаны (ці хаця б часткова ўсьведамляецца), і калі ён жорстка рэглямантаваны (напрыклад, Законам у выбарчай кампаніі), тады вызначальным робіцца прынцып, мэтад, пры дапамозе якога інтарэс рэалізуецца.

Беларускі вызвольны рух, беларускія апазыцыйныя сілы (што змагаюцца з рэжымам Лукашэнкі) ня могуць ілгаць, ня могуць ашукваць грамадзтва, не павінны дзейнічаць тымі ж мэтадамі, якімі карыстаецца Лукашэнка.

Калі ілгаць і ашукваць будуць і адны, і другія, то для грамадзтва трацца сэнс выбару. Людзі зробяць высновы, што і рэжым, і апазыцыя да яго - аднолькавыя і б'юцца толькі за ўладу (каб зноў ашукваць).

**Зянон Пазьняк**

Працяг глядзіце на 2-й стар.

## Адкрыты ліст Старшыні Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь Бойка В.В.

Паважаны сп. Старшыня!

13 траўня 1999 года судовая калегія ВГС пад Вашым старшынствам разгледзела нашы зыскі да Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку аб прызнанні несапраўднымі папярэджанняў, вынесеных на адрас нашых газет. Насуперак хадайніцтвам аб пераносе слухання справы на больш позні тэрмін, Вы рашылі правесці судовы працэс без нашай да нашых законных прадстаўнікоў прысутнасці і адразу вынеслі лёс вядучых незалежных газет. Напярэдадні Вы азначылі гэтыя справы, як такія, што ўяўляюць «определённую сложность», «социально-политическую значимость» і выклікалі «повышенный интерес ряда международных организаций».

Вынесенае рашэнне перавярнула ўсё з ног на галаву: істцы па сутнасці былі ператвораны ў адказчыкаў, а адказчык аказаўся ў «белых одеждах».

Дзяржкамдрук у сваіх папярэджаннях неабгрунтавана абвінавачваў нас у «захопе ўлады» і «закліках да захопу ўлады», гэта значыць у законачынах асабліва небяспечных злачынствах.

У рашэнні ВГС ад 15.05.99 года Вы пазбегнулі падобных фармулёвак. І на тым дзякуй! Інакш Вам давялося б накіроўваць нашы зыскі і спарадзіўшыя іх папярэджанні ў органы пракуратуры ці КГБ для вырашэння пытання аб распачынанні супраць нас крымінальных справаў.

І тым не менш, Вы не змаглі адысці ад палітычных ацэнак гэтай справы, вызначыўшы фактычна сродкі масавай інфармацыі, якімі з'яўляюцца нашы газеты, у якасці «пособников» апазіцыйных сіл краіны, што спаведаюць і абараняюць адзіную ідэалогію.

З усёй адказнасцю заяўляем Вам і ўсім тым, хто стаіць за кулісамі гэтага працэсу:

- мы, незалежныя выдаўцы, рэдактары і журналісты - не палітыкі, якія вырашылі прысвяціць сваё жыццё выключна барацьбе за ўладу - яна нам не патрэбна; яна, у той ступені, як мы яе разумеем, ужо ёсць у нас і адабраць яе не зможа ніякі палітык;

- уладу гэтую нам даюць нашы чытачы, і мы служым ім верай і праўдай, строга у рамках існуючага на сённяшні дзень у краіне заканадаўства, якое рэгулюе нашу дзейнасць.

Са шкадаваннем мы вымушаны канстатаваць той сумны факт, што Ваша, сп.Старшыня, рашэнне па абвінавачванню нашых газет у антыдзяржаўнай дзейнасці, знаходзіцца ў адным шэрагу з тымі ўладнымі актамі апошняга часу, якія скіраваны на пазаканстытуцыйныя абмежаванні правоў і свабодаў грамадзянаў Беларусі. У прыватнасці, на канстытуцыйна гарантаванае права на атрыманне, захаванне і распаўсюджванне інфармацыі.

Азнаёміўшыся з Вашым рашэннем, мы канчаткова пераканаліся: нам няма на што спадзявацца, у нас няма ні гарантыў, ні абаронцаў нашых правоў і свабодаў, мы жывем і працуем у праваым «зазеркалье», дзе кіруе не Закон, а бярэ верх «целесообразность текущего момента». Мы - у тупіку.

Але мы верым, што выйдзем з гэтага заганнага кола. Ведаем, што хутка надыдзе той час, калі прэса займе дастойнае месца, будзе служыць грамадству, а не тым, хто спрабуе узурпаваць уладу.

Нас рассудзіць Гісторыя. Яна усё і ўсіх расставіць на свае месцы.

**Іосіф Сярэдзіч**, заснавальнік і галоўны рэдактар газеты «Народная Воля»; **Павел Жук**, заснавальнік і в.а. галоўнага рэдактара газеты «Навіны»; **Пётр Марцаў**, галоўны рэдактар «Белорусской деловой газеты»; **Ірына Халіп**, галоўны рэдактар газеты «Имя»; **Аляксандр Уліцёнак**, галоўны рэдактар газеты «Свободные новости»; **Мікола Маркевіч**, галоўны рэдактар газеты ПАГОНЯ; **Аляксей Кароль**, галоўны рэдактар газеты «Згода»

## Руку падайце...

**Дабрачынны канцэрт да Дня абароны дзяцей адбудзецца 30 траўня ў будынку Гарадзенскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў.**

Ініцыятарамі акцыі сталі «Цэнтр міласэрнасьці Сям'я», грамадскае аб'яднанне «Ратуша» і цэнтр «Трэці сэктар».

Парадаваць дзяцей з незажылых і малазабяспечаных сем'яў прыйдуць акторы лялечнага тэатру, абшчыны «Жывое слова» ды іншыя артысты.

Апроч таго, дзеткі атрымаюць падарункі, узычаныя грамадзкім аб'яднаньнем «Ратуша» і міжнароднай дабрачыннай арганізацыяй «Надзея-экспрэс», якая актыўна і сыстэматычна дапамагае «Цэнтру міласэрнасьці Сям'я».

**Сьвятлана Руднік**

## Будзе цэнтр міласэрнасці

**Гарадзенскаму недзяржаўнаму «Цэнтру міласэрнасці «Сям'я» выдзелены будынак для арганізацыі грамадскага Дома міласэрнасці. Пасля завяршэння рамонту там павінен адкрыцца інтэрнат для сацыяльных сірот, выпускнікі школ-інтэрнаты, але аддаюць перавагу не вяртацца да бацькоў, пазбаўленых бацькоўскіх правоў.**

У цэнтры ўчарашнія школьнікі змогуць жыць да дасягнення поўнай самастойнасці — верагодней за ўсё, службы ў войску, стварэння сям'і або вырашэння жыллёвага пытання. Акрамя даху над галавой, цэнтр будзе прадастаўляць сацыяльную і псіхалагічную дапамогу: у выбары прафесіі, уладкаванні на працу або вучобу, **зносінах з бацькамі і равеснікамі, асабістых праблемах.**

Гарадзенская праваслаўная епархія прапанавала цэнтру для асваення 30 гектараў зямлі. Прадугледжваецца, што большасць тамтэйшых будучых жыхароў змогуць знайсці сябе ў сялянскай працы. Як патлумачыла старшыня грамадскай арганізацыі «Цэнтр міласэрнасці «Сям'я» Валянціна Радзівонцава, Дом міласэрнасці дапаможа і сацыяльнай рэабілітацыі бацькоў выхаванцаў: тут яны змогуць не толькі сустракацца з дзецьмі, але і сумесна працаваць на зямлі, звяртацца да паслуг разнастайных спецыялістаў (напрыклад, наконт лячэння ад алкагалізму), мець гутаркі з свяшчэннікамі.

«Цэнтр міласэрнасці «Сям'я» зарэгістраваны летась, але ўжо тры гады яго актывісты на грамадскіх пачатках займаюцца падтрымкай сацыяльных сірот у дзіцячых дамах і сем'ях, якія не клапоцяцца аб выхаванні дзяцей. Зараз пад назіраннем цэнтра знаходзіцца 750 сем'яў, а ў бліжэйшы час, верагодна, будзе ахоплены ўвесь горад. Як заўважыла В.Радзівонцава ў інтэрв'ю карэспандэнту, праца з дзецьмі алкаголікаў часта робіць добры ўплыў і на бацькоў: у гісторыі цэнтра ўжо ёсць сем'і, якія здолелі вярнуцца да нармальнага жыцця дзякуючы абуджанаму ўсведамленню бацькамі сваіх абавязкаў ў дачыненні да дзяцей.

**Марына Куноўская**

## Нават спірт кінулі

**Падчас правядзення спецыяльнай пагранічнай аперацыі «Мяжа—рубеж—травень-99» пагранічнікі Лідскага пагранічнага атрада прадухілілі незаконны ўвоз на тэрыторыю Беларусі больш за чатыры тысячы літраў спірту.**

Як паведамілі у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі, у грузавым аўтамабілі ЗІЛ-157, затрыманым пры спробе праехаць на тэрыторыю Беларусі па-за ўстаноўленым пунктам пропуску, былі знойдзены 22 бочкі са спіртам па 200 літраў кожная. Вадзіцель і пасажыр збеглі.

Паводле папярэдняй ацэнкі, кошт кантрабанднага грузу перавышае 3 мільярда рублёў.

**Вячаслаў Будкевіч**

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Маральны выбар

**Працяг. Пачатак глядзіце на 1-ай старонцы**

Фальсыфікацыя заканадаўства і фальсыфікацыя галасаваньня ёсьць самая страшная правакацыя, якую зьдзейсьніў у выбарчай кампаніі В.Ганчар. Едучы на сьпіне Народнага Фронту, група дзеячоў уцягвала ў балота, у бруд і хлусьню галоўную арганізацыю Вызвольнага руху, якой давяралі і на якую абапіраліся незалежніцкія сілы і сьвядомыя людзі Беларусі. Большай дыскрэдытацыі Народнага Фронту цяжка было ўявіць.

Апошнім часам праект «Чыгір» (ці праект «Ганчар», як названы ён у друку) моцна зламаўся. У выніку кадравых пераменаў у расейскай уладзе, зьнікла абяцаная падтрымка пад гэты праект і велізарнае фінансаваньне з Расеі. Цяпер стала вядома, што пасьля ўзьнікненьня складанасьцяў з праектам «Чыгір» (ужо ў траўні) зьявіўся варыянт яшчэ горшы. Сутнасьць яго ў тым, што кіраўніцтва ЦВК дэманстратыўна фальсыфікуе галасаваньне на карысьць кандыдата ад БНФ і абʼяўляе яго «пераможцам» у выбарах. (Пазьней сталі вядомыя і фальшывыя лічбы: 2,3 мільёна галасоў для мяне і 1,5 мільёна - для Чыгіра). Вось гэта быў бы канец і для Фронту, і для мяне, і для Вызвольнага руху.

Калі я пра гэта даведаўся, убачыў і зразумеў - заставалася некалькі дзён да афіцыйнай даты галасаваньня. Я пасьпеў вывесьці з-пад удару пераважную большасьць Фронту і зьняў сваю кандыдатуру. Фронтаўцы выйшлі з выбарчых камісіяў і адмовіліся ад удзелу ў выбарчай авантуры. Маскоўскі праект абваліўся з грукатам і пылам. Але разбуральныя вынікі правакацыі Ганчара доўга яшчэ будзе адчуваць беларускае грамадзтва.

***

Цяпер запрашаю прааналізаваць гэтыя два варыянты. Уявім, што першапачатковы праект не зламаўся б, у Маскве - ніякіх пераменаў, Фронт ня выйшаў бы з фальшывых выбараў, і «пераможцам» абʼяўляецца Чыгір. Пачалася б магутная інфармацыйная хваля ў расейскіх і беларускіх СМІ: «Прэзыдэнт за кратамі», «Свабоду Чыгіру». Падключаюцца міжнародныя арганізацыі. Раскрутка доўжылася б, колькі трэба.

Масква гэтым не зламала б Лукашэнку, але магла б схіліць да кампрамісу, бо Чыгіра выстаўлялі б як замену і альтэрнатыву. Лукашэнку прымушалі б аддаць расейцам і нафтавую прамысловасьць, і газавыя комплексы, упусьціць на Беларусь расейскія банкі, і ўвогуле - інтэгравацца з Расеяй на крамлёўскіх умовах: аддаць стратэгічную эканоміку, кіраваньне і правы Маскве, пакінуўшы сабе толькі абавязкі, адказнасьць і фікцыю сувэрэнітэту.

Калі б Лукашэнка на гэта не пайшоў і не знайшоў бы выйсьця, Масква паставіла б Чыгіра. Перамога «дэмакратыі» ў Беларусі, нарэшце, адбылася б. Чыгір здаў бы Маскве ўсё, чым не згандляваўся Лукашэнка. М.Чыгір тут аднак - службовая фігура, і сюжэт зь ім мог бы разьвівацца па-рознаму. (Цяпер выглядае, што Чыгіра саўдзельнікі нагул кінулі).

Уявім, што ажыцьцявілі апошні плян. Пасьля дэманстратыўнай фальсыфікацыі галасаваньня, «пераможцам» абʼяўляюць мяне. Як бы я казаў пра фальсыфікацыю рэфэрэндуму і ўзурпацыю ўлады Лукашэнкам? Якім чынам мяне б успрыняло беларускае грамадзтва (што, павінна было паверыць у 53 адсоткі прагаласаваўшых)? Як бы рэагавала міжнародная супольнасьць (што не прызнала фальсыфікацыяў Лукашэнкі)? Як бы я фармаваў урад, на якой прававой і маральнай падставе? Ліпавага прэзыдэнта несумненнай апазыцыі ператварылі б у пасьмешышча, прэса ўлюлюкала б, а народ адвярнуўся б. Выявіць фальсыфікат самому і адмовіцца ад выбраньня было б ужо позна, бо гэта азначала б, што разам з кіраўніцтвам ЦВК трэба было вінаваціць у крымінале і хлусьні Беларускі Народны Фронт і самога сябе.

Можна запярэчыць, што такія ж умовы ўзьніклі б і ў Чыгіра. Такія - ды не такія. М.Чыгір (ізноў жа скажу) - службовая асоба на гульнях паміж Масквой і Лукашэнкам. Увесь магутны апарат прапаганды, СМІ, спэцслужбы ў Беларусі і ў Расеі былі б накіраваныя (калі спатрэбілася б) на падтрымку і «раскрутку» Чыгіра. У маім варыянце гэтая сіла працавала б супраць мяне.

Як і ў 1994-м годзе, прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі асядлалі тыя ж самыя сілы. Для Фронту няўдзел у выбарах быў немагчымы. Бо нельга было б растлумачыць грамадзтву (ды і многім фронтаўцам), чаму адмаўляемся ад выбараў. Адмаўленьне ад выбараў прывяло б да зьняслаўленьня і разбурэньня Фронту. Мы вырашылі змагацца. Але пры ўмове, што кіраўніцтвам ЦВК будзе строга выконвацца закон «Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь». Ганчар гарантаваў законнасьць, але потым усё парушыў.

Становішча, якое стварылася ў беларускім грамадзтве цяпер (пасьля выбараў), вызначаецца не палітыкай. Наш народ (прынамсі, сьвядомая актыўная яго частка) і Беларускі Народны Фронт пастаўленыя перад маральным выбарам: як дасягнуць высакароднае мэты - змаганьнем ці хлусьнёй, сумленным шляхам ці спосабам ашуканства? Ад адказу на гэтае пытаньне, паверце, залежыць будучыня нацыі.

Паўстаў момант ісьціны. Людзі, якія ўвесь час казалі мне (і якіх нямала), што ня так я раблю, ня так дзейнічаю; што трэба, як Лукашэнка - паабяцаць, прыкінуцца, ашукаць, а потым, атрымаўшы ўладу, зрабіць, як належыць, - гэтыя людзі цяпер могуць выбраць.

Народны Фронт, арганізацыі якога ствараюцца, адпаведна Статуту БНФ, людзьмі «зьяднанымі грамадзянскай сьвядомасьцю ды абавязкамі, агульнасьцю маральна-этычных паставаў», свой выбар зрабіў, калі выйшаў з выбарчай кампаніі.

Але момант ісьціны трывае, маральны выбар адбываецца. Не сумняваюся ні на кроплю, што гэта будзе добры выбар. Фронтаўцы апынуліся ў найцяжэйшых умовах перасьледу і ціску ўладаў, дэзынфармацыі і адсутнасьці інфармацыі, супярэчлівых пазыцыяў кіраўніцтва ЦВК і кіраўніцтва Фронту. Ня кожны мог усё ведаць, хутка разабрацца і хутка зрэагаваць. Ніхто не зьбіраецца нікога за гэта караць. Але маральны выбар трэба зрабіць усім, бо праўда і ашуканства - несумяшчальныя, і Фронт не жыве па хлусьні.

На сёньняшні дзень свой фактычны выбар у карысьць сумніўнага прагматызму засьведчылі тры сябры Фронту: спадары Ю.Хадыка, В.Сіўчык і В.Вячорка. Прытым, спадар Хадыка пасьля зьняцьця сваёй кандыдатуры і выхаду фронтаўцаў з выбарчых камісыяў, адкрыта заклікаў па радыё «Свабода» працягваць незаконнае галасаваньне тых фронтаўцаў, якія яшчэ заставаліся ў камісыях, бо Фронт, маўляў, не адказвае за дзеяньні кіраўніцтва ЦВК. Такое «апраўданьне», аднак, нагадвае пазыцыю: «Я толькі салдат, я толькі выконваў загады.» Заклік жа да фронтаўцаў працягваць галасаваньне ва ўмовах відавочнага крыміналу (тым больш, калі з несумленных выбараў выйшаў старшыня Фронту) нагадвае запрашэньне купляць крадзенае.

Чаму такія дзіўныя паводзіны назіраем у адукаванага чалавека, які ўвесь час гаварыў пра хрысьціянскую мараль, пра мэтады «вялікага Гандзі» і г.д.? Таму што тады, калі гэта прамаўлялася, не было неабходнасьці маральнага выбару, і казаць, высьвятляецца, можна было, што хочаш. Цяпер жа выбар зроблены па сутнасьці, а не па словах.

Недапушчальнымі былі такія паводзіны і з гледзішча палітычных партыйных інтарэсаў. 8-га траўня Сойм БНФ прыняў спэцыяльную ўхвалу пра выбары, дзе было адзначана, што Народны Фронт «робіць усё, каб выбарчая кампанія адбылася ў адпаведнасьці з заканадаўствам», што «сябры БНФ «Адраджэньне» павінны строга прытрымлівацца заканадаўства Рэспублікі Беларусь у ходзе выбараў, якое мае прыярытэт пры любых варунках».

Маю рэкамэндацыю сябрам БНФ, паґрунтаваную на гэтай ухвале, аб тэрміновым выхадзе з выбарчай авантуры, дзе груба парушаецца Закон (пра што я даручыў давесьці да ведама фронтаўцаў Адказнаму сакратару Управы А.Крывароту і намесьніку старшыні БНФ С.Папкову), некаторыя мае намесьнікі, тым ня менш, успрынялі нэрвова і пачалі патрабаваць пакараньня спадароў Крывэрота і Папкова за распаўсюджаньне маёй прапановы аб выхадзе.

Гэта поўная ненармальнасьць. Шэсьць маіх намесьнікаў замест таго, каб вынікова працаваць, утварылі распалавінены дыскусыйны клюб, няздольны ні да нармальнай працы, ні да канструктыўных ацэнак. Яшчэ ў студзені (у спэцыяльным закрытым лісьце да маіх намесьнікаў) я папярэдзіў іх пра сутнасьць і зьмест праекту «Чыгір» і прапанаваў неабходныя захады. Кіраўніцтва БНФ валодала асноўнай інфармацыяй.

Але пытаньне не ў палітычных разыходжаньнях, а хутчэй - у сьветапоглядах, у маральных ацэнках палітыкі.

***

Некалькі высноваў хацеў бы адзначыць з гэтай гісторыі. Дзіўныя выбары зноў праілюстравалі, што ва ўзаемадзеяньнях Фронту з антылукашэнкаўскай апазыцыяй трэба разам дзейнічаць па інтарэсах і жорстка размяжоўвацца па прынцыпах. Размытасьць прынцыпаў у сумеснай дзейнасьці з новай намэнклятурай, з маргінальнымі палітыкамі тыпу В.Ганчара - справа небясьпечная і разбуральная. Гэтыя людзі існуюць у іншых маральных каардынатах; для іх палітыка - гэта голы прагматызм, дзе ўсё дазволена і ўсё апраўдана мэтай. Яны не клапоцяцца пра падтрымку народа, а толькі аб тым, каб яго ашукаць. Іхныя паводзіны і меркаваньні пры зьнешняй рэспэктабельнасьці - заразныя, як кароста. Фронт адчуў на сабе гэтыя замашкі, гэты цынічны чужы стыль, сьпісаны з узораў маскоўскага палітыканства. Думаю аднак, што і адмоўны досьвед пойдзе нам на карысьць.

Маральны выбар, што адбыўся і яшчэ адбываецца, прывядзе да аздараўленьня Народнага Фронту. Ніякага расколу Фронту, пра які марыць і паўсюдна трубіць замяталінская прапаганда, ня будзе. Асобы, якія не захацелі ці не захочуць трымацца маральнай пазыцыі Фронту, адыйдуць і пакінуць яго шэрагі. І гэта якраз той выпадак, калі ня трэба шкадаваць пра тых, хто пайшоў і зрабіў супрацьлеглы нам выбар.

Вызвольная арганізацыя павінна быць адзінай. У самых неспрыяльных умовах мы павінны бачыць шляхі, умець выкарыстоўваць мэтады, каб забясьпечыць яе існаваньне, уплыў і змаганьне.

***

Фронт прадоўжыць рэалізацыю сваіх палітычных праграмаў. Але найперш трэба высьветліць пэрспэктыву з прэзыдэнцкімі выбарамі. Арганізацыю выбараў трэба вырваць з рук авантурыстаў і адсекчы маскоўскі праект. Дзеля гэтага неабходна зьвярнуцца ў Вярхоўны Савет з прапановай даць ацэнку ўсім этапам выбарчай кампаніі і прыняць рашэньне па кіраўніцтву ЦВК. Калі ж Вярхоўны Савет і на гэты раз ня здолее сабрацца і зрабіць неабходныя захады, тады можна прапанаваць В.Ганчару самому падаць у адстаўку. Калі адстаўка старшыні ЦВК не адбудзецца, калі на гэтае месца не заступіць чалавек, не заплямлены і не зьвязаны з Масквой, тады можна сказаць пэўна, што Народны Фронт не падтрымае працяг прэзыдэнцкіх выбараў і ня стане ў іх ўдзельнічаць.

Здаровы Фронт усю ініцыятыву па ліквідацыі рэжыму возьме на сябе. Мы рэалізуем праграму стварэньня Грамадзянскага Парляманту і правядзем парляманцкія выбары па новым (зьмешаным) заканадаўстве. Мы створым легітымны ўрад і рэальнае двоеўладзьдзе, прымусім Лукашэнку сесьці за стол перамоваў, а калі ня сядзе - то проста арыштуем як узурпатара ўлады. І ні адзін стрэл не прагучыць у Беларусі. І ніводны міністр, ніводны «вертыкальшчык», і нават КГБ - ня ўступяцца за яго.

Фронту ж, як заўсёды, давядзецца змагацца, працаваць і гараць нашу беларускую баразну ў поце і стамленьні, бо ніхто не ўзгарэ яе нам, апроч нас самых.

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**
**23 траўня 1999 года**

# Падзяка выбаршчыкам

**Выказваю шчырую ўдзячнасьць усім тым, зто зьбіраў подпісы за вылучэньне маёй кандыдатуры на Прэзыдэнта; усім тым, хто падпісаўся, усім выбаршчыкам, што ня ведалі пра незаконны мэханізм галасаваньня, але прагаласавалі за мяне; і тым, што хацелі прагаласаваць, але не прагаласавалі, бо разабраліся ў сытуацыі альбо ня мелі магчымасьцяў.**

Выбары пачаліся нармальна. Але потым кіраўніцтва Цэнтральнай Выбарчай Камісіі адышло ад законнасьці. Беларускі Народны Фронт выступіў у абарону Закона. Удалося прыпыніць вялікую выбарчую авантуру, якую хацелі ажыцьцявіць тыя ж сілы і тыя ж асобы, што ў 1994-м годзе прывялі да ўлады А.Лукашэнку.

Пазыцыя людзей, што кіруюць выбарамі, і пазыцыя Прэзыдэнта ня можа быць немаральнай. Працяг выбараў павінен быць сумленным. Перамога будзе за вольнай Беларусьсю.

**Зянон Пазьняк**

# З 21-га ліпеня кіраваць намі будзе Шарэцкі!

**Вынікі прэзідэнцкіх выбараў, што адбыліся ў траўні і далейшыя дзеянні апазіцыі пасля 20 ліпеня 1999 года — заканчэння тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта Лукашэнкі — былі абмеркаваны ўдзельнікамі пашыранага пасяджэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 24 траўня ў Менску.**

Паколькі кожны з удзельнікаў пасяджэння атрымаў асобнік пастановы Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, то старшыня камісіі Віктар Ганчар спыніўся ў сваім выступленні не на юрыдычным, а на палітычным аспекце прайшоўшай кампаніі. На ягоную думку, менавіта прэзідэнцкія выбары даюць рэальную праграму палітычных дзеянняў у межах Канстытуцыі 1994 года, пачынаючы з 21 ліпеня 1999 года, калі завершыцца пяцігадовы тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта А.Лукашэнкі. Што тычыцца ацэнкі прайшоўшых выбараў, то нават дэпутаты, якія выказалі некалькі крытычных заўваг па апошнім этапе выбарчай кампаніі, у прыватнасці, Уладзімір Нісцюк і Анатоль Лябедзька, у цэлым далі ім высокую ацэнку.

Выбары, на думку ўдзельнікаў пасяджэння, пацвердзілі той факт, што насельніцтва Беларусі не хоча, каб прэзідэнт А.Лукашэнка ажыццяўляў свае паўнамоцтвы на працягу яшчэ двух гадоў. Яны адзначалі, што члены Цэнтркама, а таксама тэрытарыяльных камісій зрабілі велізарную працу, за якую яны заслугоўваюць вялікай падзякі. З гэтай нагоды Сямён Шарэцкі адзначыў, што «крыўдна чытаць і пачуваць, калі хтосьці акцэнтуе ўсю ўвагу на дробных негатыўных дэталях кампаніі і не бачыць той велізарнай справы, якую зрабілі выбарчыя камісіі».

Зараз, на думку ўдзельнікаў пасяджэння, як ніколі трэба прадумаць усе, да дробязяў, дэталі перадачы ўлады легітымнаму старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання. З гэтай мэтай у самыя бліжэйшыя дні пройдуць шматлікія кансультацыі як у Беларусі, гэтак і за яе межамі.

**Уладзімір Глод**

# Фініш для Прэзідэнта

**Апазіцыйная моладзевая арганізацыя «Малады Фронт» правядзе серыю акцый пад агульнай назвай «Фініш», прымеркаваную да заканчэння канстытуцыйнага тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, прайшоўшым прэзідэнцкім выбарам, падзеям у Югаславіі. Аб маючых адбыцца акцыях 24 траўня на прэс-канферэнцыі распавёў старшыня «Маладого фронта» Павел Севярынец.**

Першым спартыўным мерапрыемствам у межах «Фінішу» стане прабег па кальцавой магістралі вакол Менска, які ўжо дазволены Менгарвыканкамам і адбудзецца 29 траўня з 9.00 да 21.00. Прабег пройдзе пад дэвізамі «Фініш!» і «Свабоду палітзняволеным!» Актывістамі «Маладога фронту», як водгук на найважнейшыя грамадска-палітычныя падзеі ў краіне і свеце, задуманы розныя шоу, гульні, конкурсы. Напрыклад, гульня ў «самалёцікі», у якой сыйдуцца прыхільнікі Сербаў і прыхільнікі NATO. У «Ляльках» удзельнікам конкурсу будзе прадастаўлена магчымасць прадставіць пародыі на палітыкаў. Адбудзецца конкурс прыгажосці «Unisex» з удзелам юнакоў і дзяўчат, якія апрача знешніх даных павінны прадэманстраваць дасціпнасць, знаходлівасць, музыкальнасць. У межах конкурсу пройдуць выбары прэзідэнта, якім і стане яго пераможца. Падчас прэс-канферэнцыі быў абраны старшыня журы —журналіст газеты «Свободные Новости» Сяргей Маліноўскі. У чэрвені—ліпені адбудуцца таксама спаборніцтвы па кампʼютэрных гульнях, армрэслінгу, футболу і валейболу, шахматах, партызанскім турызме, зʼяданні лімона, конкурс снайпераў.

Павел Севярынец, падчас прэс-канферэнцыі, расказаў таксама аб падрыхтоўцы «Маладога Фронту» да ўдзелу ў шостым зʼездзе БНФ. Маладафронтаўцы маюць намер узяць удзел у працы зʼезда адзінай дэлегацыяй.

**Генадзь Барбарыч**

# Мітынг у падтрымку Чыгіра

**Тэрмін утрымання пад вартай Міхаіла Чыгіра працягнуты яшчэ на два месяцы. Пра гэта паведаміла жонка экс-прэмʼера Юлія на мітынгу, што прайшоў 24 траўня ў сталічным скверы Янкі Купалы ў падтрымку Міхаіла Чыгіра і быў прымеркаваны да дня яго нараджэння.**

Гэтую інфармацыю яна атрымала літаральна напярэдадні акцыі і лічыць, што такім чынам улады «павіншавалі» яе мужа з 51-годдзем. Апрача Юліі Чыгір на мітынгу выступілі прадстаўнікі апазіцыі і праваабаронцы. Усе яны заявілі, што лічаць арышт М.Чыгіра палітычнай акцыяй. На думку выступоўцаў, улады не развязалі б кампанію супраць М.Чыгіра, калі б ён не вылучыў сваю кандыдатуру на прэзідэнцкія выбары, прызначаныя Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання.



Фота IREX/ProMedia

Намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка, гаворачы аб прайшоўшых выбарах, заявіў, што яму сорамна за некаторых прадстаўнікоў кіраўніцтва Фронту, якія ўсё зрабілі, каб гэтыя выбары сарваць. Паводле слоў Ю.Хадыкі, такія дзеянні не падтрымлівае большасць шэраговых членаў БНФ. Каля 500 удзельнікаў акцыі прынялі рэзалюцыю, у якой запатрабавалі ад улад вызваліць з-пад варты Міхаіла Чыгіра і дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава, а таксама сказаць аб цяперашнім месцазнаходжанні Юрыя Захаранкі.

**Генадзь Барбарыч**





ГРАМАДСТВА

# 10 мільёнаў на вітаміны!!!

**У Гарадзенскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце прайшоў навукова-практычны семінар, прысвечаны ролі вітамінаў у аднаўленні і захаванні здароўя насельніцтва Беларусі.**

Нават у самым глухім «мядзвежым кутку» не знайсці чалавека, для якога слова «вітаміны» і яго значэнне будуць адкрыццём. І ўсё ж паводле меркавання медыкаў, абсалютная большасць насельніцтва відавочна недаацэньвае іх ролю, пра што можна меркаваць, напрыклад, па сярэдняй працягласці жыцця ў Беларусі: у мужчын - каля 63 гадоў, у жанчын - крыху больш 74-х. Сярод прычынаў такой ранняй смяротнасці - забруджванне навакольнага асяроддзя, наступствы аварыі на ЧАЭС, эканамічны спад, падзенне ўзроўня жыцця. Нашы людзі ў такіх ўмовах харчуюцца нерацыянальна і, як кажуць навукоўцы, «неадэкватна фізіялагічным нормам арганізму». Мы, ведама, не галадаем, але практычна ўсе пакутуем ад недахопу вітамінаў. А яны ж - не проста дадатак да асноўных кампанентаў ежы. Яны - наша абарона ад атруты, канцэрагенаў, радыяцыі. Вітаміны адыгрываюць вызначальную ролю ў прафілактыцы рака, у прадухіленні ранняга старэння.

Асабліва засмучае тое, што ад недахопу вітамінаў у Беларусі пакутуюць дзеці і цяжарныя жанчыны. Масавыя абследаванні, праведзеныя навуковымі ўстановамі Міністэрства аховы здароўя на розных тэрыторыях Беларусі, сведчаць пра тое, што 92-96 працэнтаў дзяцей маюць глыбокі полігіпавітаміноз - недахоп у арганізме 8-10 вітамінаў. Згодна з дадзенымі медычнай статыстыкі, за апошнія 10 гадоў агульнае захворванне дзяцей рэспублікі ўзрасло ў 1,5 раза. Пры гэтым па асобных групах хваробаў рост яшчэ больш значны: хваробы сэрца і сасудаў павялічыліся ў 2,5 раза, мачапалавой сістэмы - ў тры разы, косна-мышачнай - у чатыры разы, шчытападобнай залозы - у дзесяткі разоў. Акрамя таго, практычна ўсе насельніцтва рэспублікі, у тым ліку і дзеці, адчуваюць вострую патрэбу ў мікраэлементах, асабліва ў ёдзе, жалезе і селене.

На жаль, як адзначалася на семінары, у рэспубліцы не праводзіцца мэтанакіраванай работы па прафілактычнай вітамінізацыі дзяцей. А ў свядомасці большасці людзей замацаваўся фактар пераважнай значнасці гароднінкі і садавіны ў забеспячэнні арганізма вітамінамі. Насамрэч жа, па сцвярджэнню навукоўцаў, нават досыць разнастайнае харчаванне ў неспрыяльных экалагічных і сацыяльных умовах не выратоўвае ад дэфіцыту вітамінаў.

Самы надзейны сродак барацьбы з гіпавітамінозам, асабліва ў зімова-весновы перыяд - полівітамінныя прэпараты. Дарэчы, у ЗША, Канадзе, Англіі да 60 працэнтаў насельніцтва рэгулярна прымае іх, і практычна 100 працэнтаў дзяцей, цяжарных жанчын, а таксама мацярок падчас выкормлівання дзяцей грудзьмі. Меркаванне наконт таго, што сінтэтычныя вітаміны менш эфектыўныя за натуральныя, памылковае. Яны ідэнтычныя прыродным, а ў выглядзе таблеткі ці гранулы захоўваюцца нават лепш, чым у прадуктах харчавання. Пры гэтым, як зазначалася ў дакладах семінара, айчынныя прэпараты па якасці не саступаюць замежным.

Да гэтых жыццёва важных высноваў семінара засталося дадаць вынік міні-даследавання наяўнасці полівітамінаў у некаторых аптэках Гродна. Ні ў адной з пяці размешчаных у цэнтры горада аптэк, айчынных полівітамінаў не было. Кошты імпартных вагаліся ад 1-2 мільёнаў да 3-4 мільёнаў. Улічваючы, што ва ўпакоўцы па 20-30 дражэ (а на дзень даросламу чалавеку неабходна не менш 1-2 адзінак), то сярэднестатыстычнай беларускай сям'і з чатырох чалавек неабходна на месяц не менш як 10 мільёнаў рублёў траціць толькі на вітаміны.

**Ніна Палуцкая**

## Гарадзенскі ўікэнд

**Гісторыка-археалагічны музей. Новы замак. Сенатарская зала.** Выстава жывапісу У.С.Мельнікава. Гістарычны і сучасны партрэт. З 2-га чэрвеня - адкрыццё выставы жывапісу Ігара Сільвановіча. **Авальная зала.** Выстава са шклозавода «Нёман» Людмілы Мягковай пад назвай «Шкло і вобраз».

**Галерэя «Тызенгаўз» (пл. Тызенгаўза, 4).** З 25 траўня - выстава-вынік VIII міжнароднага пленэра ў Навагрудку, прысвечанага 200-м угодкам Адама Міцкевіча.

**Галерэя «У майстра».** Юбілейная выстава Мікалая Скляра: драўляная скульптура, графіка, кераміка.

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава самацветаў і вырабаў з іх, падрыхтаваная юнацкім геалагічным атрадам «Карат». Працяг выставы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва навучэнцаў Палаца дзіцяча-юнацкай творчасці пад назвай «Маладыя парасткі. Дрэва раміствах».

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава гарадзенскіх мастакоў «Кола». Жывапіс, графіка, кераміка.

**Галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Працяг выставы пад назвай «Бабуліны рэчы з гарышча». Жывапіс і фатаграфія. Мастацкая акцыя «Гарадзенскі партрэт».

**Цэнтр народнай творчасці (Савецкая,8).** Выстава традыцыйнага рамяства Гарадзеншчыны. Выстава твораў сям'і Закрэўскіх: жывапіс, акварэль, вышыўка.

**Дом мастацкай і тэхнічнай творчасці моладзі (Замкавая,13).** Выстава вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва навучэнцаў спецыяльных прафесійных установаў Гарадзеншчыны.

**Драмтэатр.** 27 траўня - «Чалавечая жанчына», драма паводле М.Горкага. 28 траўня - «Рагнеда і Уладзімір». 29 траўня - прэм'ера і інсцэніроўка Уільяма Тэкерэя «Пярсцёнак і ружа». 30 траўня - «Дзівакі». Пачатак спектакляў у 19.00.

**Канцэрты. Палац культуры хімікаў.** 27 траўня ў 19.00 - канцэрт артыстаў Гарадзенскай філармоніі «Веснавы калейдаскоп» з удзелам дуэта «Энігма», гурта сучаснай харэаграфіі «Тад» ды іншых.

**Дом афіцэраў.** 28 траўня ў 18.30 - канцэрт з удзелам тэлевядучай Ларысы Грыбалёвай. Праграму вядзе Ягор Хрусталёў (вядучы «Карамболя»). 29 траўня ў 19.00 - «Усе хіты» - праграма тэатра гумару «Канкан».

# Гродна прыгожы, як аблычак

**У мінулы аўторак у дызайн-галерэі «Раскоша» завяршылася бліц-выставай мастацкая акцыя «Гарадзенскі партрэт».**

Бліц-выставай імпрэза стала дзякуючы надзвычай кароткаму яе тэрміну. Гарадзенцы ўсяго тыдзень маглі бачыць творы мастака з Абхазіі Руслана Габлія. Тут да месца невялічкі каламбур: «бліц-выстава» - таму што карціны Руслана, чалавека з гарачага Усхода, нават у пахмурны дзень прамяняюца яркім сонечным святлом, іграюць сонечнымі блікамі.

На працягу болей як месяца Руслан працаваў у імправізаванай майстэрні, якая размясцілася проста ў галерэі, партрэты гарадзенцаў. Шукаў на гарадскіх вуліцах цікавыя ракурсы. У выніку атрымалася выстава, складзеная з партрэтаў і ўрбаністычных пейзажаў адначасова. Так што назва «Гарадзенскі партрэт» мае найменей два сэнсы: мы бачым партрэт горада і яго насельнікаў.

Наогул, палярнасць выставы адчуваецца ва ўсім: талент мастака спалучае лаканічную стрыманасць графікі і феерверк масляных фарбаў, выяўляе малых дзяцей у анёльскім узросце і дарослых людзей, пададзеных у самых разнастайных жанрах.

Асабліва ўразіліся гледачы новым падыходам абхазскага мастака да гарадзенскага пейзажу. «Я пішу не так, як бачу вачыма, а тое, што адчуваю, што бачу сэрцам», - гаворыць Руслан. Аматары мастацтва прызвычаіліся да рацыянальных, стрыманых імгліслых карцін Валерыя Малочкі, Генадзя Піцко ды іншых, на якіх паказаны сапраўдныя дамы, касцёлы, вуліцы і завулкі. Звыклае да такога падыходу вока нават не адразу пазнае на палотнах Руслана Габлія кірху ці Фарны касцёл. Мастацкая экспрэсія ператварыла іх у сакавітыя, квяцістыя сілуэты, падобныя хутчэй на заморскую садавіну, чым на шэрыя старыя будыніны. Асобныя складнікі сваіх нацюрмортаў мастак яшчэ вылучае чорным контурам, каб ніводная рэч не згубілася.

Экзотыка фарбавага экспрэсіянізму саступае вытанчанай прыгажосці і цеплыні графічных партрэтаў. Яны сапраўды «як жывыя». Але не дзякуючы падабенству на мадэль, а з-за прысутнасці ў кожным творы таямнічага жывога духу.

Як заўважыў зямляк Руслана, гарадзенскі скульптар і мастак Генадзь Лакоба, «мастацкая акцыя «Гарадзенскі партрэт» - гэта падзея большая, чым можна ўявіць. З 92-га года ў сувязі з вайной стала амаль немагчыма выехаць з Абхазіі. Аднак дзякуючы сваім сябрам Руслан здолеў выбрацца, каб адчуць пах свабоды». На дзіва, спадар Габлія сапраўды на некаторы час адчуў гэтую свабоду. Паводле ягоных словаў, «тут няма замкнутай прасторы - так блізка вы да Еўропы...»

Як вядома, Муза на заказ не прыходзіць. Аднак выстава Руслана Габлія спрабуе абвергнуць гэтае сцвярджэнне. За кароткі абмежаваны час, на працягу якога мастак гасцяваў у нашым горадзе, нарадзілася яркая і вельмі цікавая выстава, што паказвае нам звыклыя рэчы з нязвыклага боку.

Увосень плануецца працяг акцыі - «Гарадзенскі партрэт-2».

# «Прыхадзень» - у сямёрцы лідараў

**Гарадзенскі тэатр лялек возьме ўдзел у IV Беларускім міжнародным фестывалі тэатраў лялек. У Менск гарадзенцы павязуць самы элітарны свой спектакль - «Прыхадзень».**

З 29 траўня да першага чэрвеня ў сталіцы пройдзе свята лялек для дарослых і дзяцей. Фэст пачнецца з адкрыцця дошкі памяці пачынальніку менскага тэатра лялек рэжысёру Анатолю Ляляўскаму.

У гэтым годзе упершыню ў Менск прыедуць латышы, літоўцы, дагестанцы. Традыцыйна ўдзел возьмуць расіяне, украінцы, французы, немцы і палякі.

Менскі тэатр лялек паказвае пастаноўку Аляксея Ляляўскага «Гісторыя снежнай каралевы». Гарадзенскім аматарам тэатру Аляксей Ляляўскі знаёмы па знятаму з рэпертуару спектаклю «Лiпавічкі».

Упершыню Беларускі міжнародны фестываль лялечных тэатраў прайшоў у 1990 годзе. Сёлета ў свяце прымуць удзел 16 тэатраў. Па выніках працы будзе ўручаны Гран-пры.

За конкурсны спектакль «Прыхадзень» (рэжысура Мікалая Андрэева, сцэнаграфія Алеся Сурава) гарадзенскі тэатр лялек быў узнагароджаны ганаровым Дыпломам Міністэрства культуры за лепшую пастаноўку 97-га года.

З Беларусі ў фэсце ўдзел возьмуць сем тэатраў лялек.

**Алена Сіневіч**



Маладосць пад наглядам
Фота IREX/ProMedia.

# Курсы валют

На 26 траўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:

даляр ЗША — 249.000 беларускіх рублёў; еўра — 264.736,80; нямецкая марка — 135.357,78; расійскі рубель — 10.140. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра ЗША не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 26 траўня даляр куплялі па 430.000—435.000 і прадавалі па 440.000—445.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс знізіўся ў сярэднім на 5.000 рублёў.

**Дзмітрый Уласаў**

# Хлусня, нахабная хлусня, статыстыка...

**Узровень беспрацоўя ў Беларусі, які на працягу прыкладна года заставаўся нязменным (2,3 працэнта ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва краіны), у красавіку 1999-га скараціўся да 2,2 працэнта. Пра гэта паведамілі у Міністэрстве статыстыкі і аналізу.**

Афіцыйна зарэгістраваныя ў дзяржаўных службах занятасці ў якасці беспрацоўных 103,1 тысячы чалавек. Аднак, як лічаць эксперты праекта Belarus Economic Trends, фінансуемага TACIC — праграмай Еўрасаюза для краін СНД, для Беларусі сур'ёзнай праблемай з'яўляецца скрытае беспрацоўе. Яны адзначаюць адсутнасць гібкасці на беларускім рынку працы і нежаданне людзей рэгістравацца ў якасці беспрацоўных з-за нізкага памеру дапамогі па беспрацоўі і высокага ўзроўню прад'яўляемых патрабаванняў.

Так, дапамога па беспрацоўі ў красавіку была налічана толькі 44 тысячам беспрацоўных. Сярэдні памер яго склаў 680,9 тысячы рублёў (каля 2,8 долара ЗША па афіцыйным курсе, альбо прыкладна 1,7 даляра па курсу «чорнага рынку»).

**Сяргей Снегін**

# Лукашэнкаўскім дэпутатам не хочацца дэклараваць даходы

**Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі ў чарговы раз адхілілі праект закона аб дэкляраванні фізічнымі асобамі даходаў, маёмасці і крыніц грашовых сродкаў. Дадзены законапраект быў распрацаваны ў адпаведнасці з аналагічным дэкрэтам прэзідэнта ад 12 лютага 1997 года.**

Каля года таму, падчас першага разгляду дакумента ў ніжняй палаце, дэпутаты палічылі за неабходнае перагледзець памеры маёмасных здзелак, што падлягалі абавязковаму дэкларыванню, прапанаваўшы павялічыць іх з 200—500 да 1000—2000 мінімальных зарплат. Апрача таго, парламентарыі палічылі за неабходнае скарацiць колькасць дзяржаўных органаў, якія валодаюць правам патрабаваць у фізічных асоб дэкларацыі аб крыніцах іх даходаў. Замест указаных у дэкрэце шасці дзяржаўных органаў — Камітэт дзяржкантролю, Камітэт фінансавых расследаванняў, МУС, Пракуратура, КДБ і падатковая інспекцыя — дэпутаты прапанавалі пакінуць толькі апошні.

Аднак прэзідэнт не пагадзіўся з дэпутацкімі папраўкамі і, у сваю чаргу, прапанаваў ім прывесці дакумент у адпаведнасць з яго дэкрэтам. 13 красавіка дэпутаты пагадзіліся з пярэчаннямі кіраўніка дзяржавы, аднак ужо 18 траўня, пры паўторным разглядзе праекта закона, нечакана зноў змянілі сваё рашэнне і адхілілі яго.

Дакумент зноў адпраўлены ў камісію па бюджэце і фінансах для далейшага ўзгаднення з прэзідэнтам.

**Юрый Пацёмкін**

# Прэзідэнт узяўся за цэны

**На тэрыторыі Беларусі не дапускаецца рост цэн і тарыфаў без прыняцця адпаведных захадаў па сацыяльнай абароне насельніцтва. Гэта ўстаноўлена ўказам прэзідэнта N 285, які ўступіў у сілу 20 траўня.**

Дакумент дэкларуе шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на «паляпшэнне сацыяльна-эканамічнага становішча насельніцтва, недапушчэнне неабгрунтаванага росту цэн і ўдасканаленне сістэмы цэнаўтварэння». Урад і Нацыянальны банк надзелены правам сумесна ўстанаўліваць і пераглядаць «гранічныя індэксы змянення адпускных цэн (тарыфаў) на тавары (работы, паслугі), якія выпрабляюцца на тэрыторыі рэспублікі». Новыя адпускныя цэны і адпускныя цэны на новыя тавары суб'екты гаспадарання абавязаныя рэгістраваць у дзяржаўных органах. Парадак гэтай рэгістрацыі і гранічныя індэксы змянення цэн павінен на працягу месяца зацвердзіць Савет Міністраў.

Перавышэнне устаноўленых гранічных індэксаў змянення адпускных цэн (тарыфаў) без рэгістрацыі, паводле прэзідэнцкага указа, будзе карацца спаганненм з суб'екта гаспадарання атрыманага даходу і буйных штрафаў як з прадпрыемства, гэтак і з іх кіраўніка. Указам таксама зацверджаны пералік тавараў (работ, паслуг), цэны, тарыфы і надбаўкі на якія рэгулююцца органамі дзяржаўнага кіравання і аб'яднанняў, падпарадкаваных ураду. У пераліку — 59 пазіцый. Сярод іх — паліўна-энергетычныя рэсурсы, нафтапрадукты і прыродны газ, спірт і алкагольныя вырабы, каштоўныя металы, прадукцыя на экспарт, перавозка пасажыраў і грузаў, лекавыя сродкі беларускага паходжання, прадукцыя прадпрыемстваў будаўнічых матэрыялаў, медыцынскія паслугі, драўніна і лесаматэрыялы, паслугі сувязі, сельскагаспадарчая прадукцыя пры закупцы, камунальныя паслугі.

Рост цэн, на думку прэзідэнта Беларусі, выказаную падчас нарады 18 траўня г.г., з'яўляецца самай вострай сацыяльнай праблемай у краіне. Відавочна, што змагацца з інфляцыяй рынкавымі метадамі урад аказаўся не ў стане. З пачатку 1999 года спажывецкія цэны павялічыліся больш чым на 60 працэнтаў, хаця кіраўніком дзяржавы такі іх рост быў зацверджаны на ўвесь год.

**Сяргей Снегін**

 



# МВФ крэдыта не даў

**Міжнародны валютны фонд не лічыць магчымым выдаткаваць Беларусі крэдыт у межах праграмы надзвычайнага кампенсацыйнага фінансавання (CCFF). Такую заяву для прэсы зрабіў 26 траўня дырэктар Другога еўрапейскага ўпраўлення МВФ спадар Джон Одлінг-Смі, які знаходзіцца гэтымі днямі ў Менску.**

Паводле яго словаў, удзел Беларусі ў гэтай праграме МВФ, калі рэспубліка магла б атрымаць крэдыт у памеры каля 100 млн. даляраў ЗША, спынены. Прычына такога рашэння заключаецца ў тым, што кіраўніцтва краіны не змагло выканаць дамоўленасці ў галіне эканамічнай палітыкі, дасягнутыя з экспертамі МВФ у кастрычніку мінулага года. Грашова-крэдытная палітыка ў гэты перыяд была больш слабой, чым агавораная, а прагрэс у галіне структурных рэформ — у асаблівасці ў сферы лібералізацыі валютнага рынку — занадта павольным.

«Ёсць таксама шэраг іншых пытанняў, але гэта — два найбольш важных», —падкрэсліў спадар Одлінг-Смі. Кіраўніцтва Беларусі, на яго думку, было вельмі расчараванае такім рашэннем фонду, аднак пры гэтым заявіла, што пастараецца абыйсціся без крэдыту. Закрануўшы сваю сустрэчу з А.Лукашэнкам і заявы прэзідэнта аб залішняй палітызаванасці стратэгіі МВФ у адносінах да Беларусі, Джон Одлінг-Смі сказаў, што растлумачыў кіраўніку беларускай дзяржавы спосаб кіравання фондам, пры якім рашэнні прымаюцца калегіяльна. «Я растлумачыў спадару Лукашэнку, што Беларусь не выканала тыя ўмовы, якія былі неабходны для атрымання крэдыту CCFF. Як бачна, гэты пункт гледжання не поўнасцю быў растлумачаны народу Беларусі...», — падкрэсліў дырэктар Другога еўрапейскага ўпраўлення МВФ.

**Аляксей Арэшка**

# Законы прымаюцца толькі на год

**На мінулым тыдні 79-цю галасамі Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прыняла Закон «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб аб'ектах, якія знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы». У бліжэйшыя дваццаць дзён чакаецца яго ўхваленне Саветам Рэспублікі.**

Нагадаем, што Закон РБ «Аб аб'ектах, якія знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы» ад 5 траўня 1998 года прылічае да аб'ектаў выключнай уласнасці дзяржавы прыродныя рэсурсы: землі сельскагаспадарчага прызначэння, нетры, воды, лясы, асабліва ахоўваемыя прыродныя аб'екты і тэрыторыі; ваенную маёмасць, халодную, агнястрэльную і газавую зброю; прадпрыемствы па вытворчасці, захаванню, збыту моцнадзейных атрутных рэчываў, якія могуць выклікаць хімічную забруджанасць навакольнага асяроддзя; прадпрыемствы, падначаленыя рэспубліканскім органам дзяржаўнага ўпраўлення па патэнтах, па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі, а таксама многія іншыя аб'екты. Усяго трыццаць пяць відаў. У кастрычніку 1998 года ПАГОНЯ паведамляла, што «пад закон» падпалі: ВА «Азот», магілёўскае і гарадзенскае «Хімвалакно», «Нафтан», «Палімір» і г.д. Вось тут і пачаліся цяжкасці...для прадпрыемстваў.

У адпаведнасці з артыкулам 3 Закона РБ «Аб аб'ектах, якія знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы», валоданне і карыстанне аб'ектамі выключнай уласнасці дзяржавы ажыццяўляецца толькі ўпаўнаважанымі дзяржаўнымі органамі. Больш таго. Аб'екты, што знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы, не падлягаюць залогу, раздзяржаўленню і прыватызацыі; арэнда вышэйуказанай маёмасці здзяйсняецца адпаведна існуючаму заканадаўству без прадастаўлення арандатару права на выкуп арэндаванай маёмасці. Усё гэта ўшчамляла і ўшчамляе эканамічную свабоду дзяржаўных прадпрыемстваў і значна ўскладняе іхняе жыццё. (Пра што і папярэджвалася ў ПАГОНІ).

У сувязі з гэтым парламентарыі палічылі за неабходнае ўнесці папраўкі ў Закон «Аб аб'ектах, якія знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы» і зняць узнікшыя праблемы. Прынцыповыя папраўкі якраз і датычацца надзённых праблемаў жыццядзейнасці дзяржаўных прадпрыемстваў, да якіх дэпутаты Палаты прадстаўнікоў паставіліся з разуменнем. Паводле будучага закона са змяненнямі і дапаўненнямі, з дазволу ўласніка прадпрыемства можна здаваць ў залог маёмасць пад атрыманне крэдыту. Апроч таго, прадпрыемствам вярнулі права адчужаць невыкарыстоўваемую ці неэфектыўна выкарыстоўваемую маёмасць. У цэлым прынята больш за дзесяць паправак.

Тое, што яшчэ свежы закон мяняецца і дапаўняецца ў беларускай законатворчасці, - з'ява звыклая. Год без змянення закона хутка наогул стане рэкордам. Паспешныя і шмат у чым неабдуманыя законапраекты - гэта прадукт «прафесіяналізму» прызначаных прэзідэнтам парламентарыяў, а таксама прадукт паслужлівасці, бюракрацтва і неразумення ўсёй трагічнасці сітуацыі ў эканоміцы краіны і ў жыцці грамадзянаў рэспублікі ў цэлым.

**Максім Жмінда**

# Кошты на кватэры папаўзлі ўніз, аднак і заробак туды ж

| Вул., праспект | Колькасць пакояў | Планіроўка | Сярэдні кошт | |
|---|---|---|---|---|
| | | | набыц. | прод. |
| Пушкіна | адзін | хрушч. | 6500 | 7900 |
| Міра | адзін | хрушч. | 6500 | 7700 |
| Каліноўскага | адзін | брэжн. | 7800 | 9900 |
| Курчатава | адзін | хрушч. | 6500 | 7900 |
| Кабяка | адзін | новая | 7800 | 9700 |
| Касманаўтаў | адзін | хрушч. | 7000 | 8600 |
| 40 год Перамогі | адзін | новая | 8000 | 10000 |
| Дамброўскага | адзін | хрушч. | 6500 | 8000 |
| Дзяржынскага | адзін | хрушч. | 6500 | 8000 |
| Урублеўскага | два | хрушч. | 9000 | 10500 |
| Соламавай | два | новая | 12000 | 13000 |
| 40 год Перамогі | два | новая | 11500 | 13000 |
| Пестрака | два | брэжн. | 11300 | 12300 |
| Дамброўскага | два | хрушч. | 9000 | 10500 |
| Фолюш | два | новая | 11500 | 12700 |
| Будаўнікоў | два | брэжн. | 11300 | 12300 |
| Шчорса | два | новая | 11900 | 13000 |
| Я.Купалы | два | брэжн. | 11300 | 12500 |
| Каліноўскага | два | брэжн. | 12500 | 14000 |
| Горкага | два | брэжн. | 13500 | 14500 |
| Горкага | два | хрушч. | 10800 | 12000 |
| Томіна | два | новая | 11500 | 13500 |
| Фолюш | тры | брэжн. | 15200 | 16300 |
| Дамброўскага | тры | хрушч. | 13000 | 14000 |
| Суворава | тры | новая | 14800 | 16000 |
| 40 год Перамогі | тры | новая | 15500 | 16500 |
| Урублеўскага | тры | брэжн. | 15500 | 16500 |
| Шчорса | тры | новая | 16000 | 17000 |
| Каліноўскага | тры | брэжн. | 17000 | 19000 |
| Я.Купалы | тры | брэжн. | 15500 | 16500 |
| Церашковай | тры | новая | 16000 | 18000 |
| Пестрака | тры | брэжн. | 15500 | 16500 |
| Гагарына | тры | новая | 16000 | 18000 |
| В.Траецкая | тры | спец. | 18000 | 20000 |
| Кабяка | тры | новая | 15500 | 17500 |
| Леніна | тры | брэжн. | 18000 | 20000 |
| БЛК | тры | новая | 16500 | 17500 |
| Будаўнікоў | тры | брэжн. | 16500 | 17500 |
| Горкага | тры | хрушч. | 13000 | 15000 |
| Горкага | тры | новая | 19000 | 20500 |
| Болдзіна | тры | новая | 17000 | 18500 |
| Соламавай | чатыры | хрушч. | 14000 | 15000 |
| Шчорса | чатыры | новая | 20000 | 21000 |
| Пушкіна | чатыры | хрушч. | 14500 | 15500 |
| Урублеўскага | чатыры | хрушч. | 13500 | 14500 |
| Горкага | чатыры | новая | 21000 | 22500 |
| Рэпіна | чатыры | новая | 19500 | 20500 |

**Болей як чатыры месяцы мінула з моманту апошняга агляду рынка нерухомай маёмасці ў ПАГОНІ. За гэты час тэндэнцыя да зніжэння коштаў на кватэры засталася, а ў Менску нават умацавалася.**

У цэлым у сталіцы Беларусі і так былі самыя высокія па рэспубліцы цэны на жыллё, таму 15-20-працэнтнае зніжэнне коштаў на некаторых сегментах рынка нерухомай маёмасці не такая ўжо і дзіўная з'ява. Тое, што жыллё патаннела, закранула ўсю рэспубліку. Як адзначаюць некаторыя эканамісты аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», зніжэнне цэнаў адбылося на дзесяць працэнтаў у цэлым па рэспубліцы да ўзроўня студзеня-лютага 1998 года.

Паводле меркаванняў цэнтра, прычыны змяншэння цаны на жыллё наступныя:

1) зніжэнне пакупніцкай здольнасці грамадзянаў рэспублікі ў сувязі з больш чым трохкратным зніжэннем узроўня сярэдняга заробка па краіне;

2) зніжэнне коштаў на нерухомую маёмасць у Расійскай Федэрацыі, Літве і Украіне;

3) структурныя перастаноўкі на рынку жылля, заўважнае ўзрастанне цікавасці да будоўлі жылля па далявому ўдзелу;

4) павелічэнне «ўвядзення» новага жылля на 18 працэнтаў, у параўнанні з мінулым годам ды інш.

Нягледзячы на змяншэнне цэнаў на кватэры, даступнасць у набыцці апошніх вельмі нізкая. У Брэсце, Гродне, Менску колькасць пагадненняў на рынку жылля, у параўнанні з 1996 годам, паменшылася ў сем разоў; у параўнанні з 1997 годам - у чатыры разы; з мінулым - у два з паловай разы.

Што сёння ўяўляе з сябе другасны рынак жылля ў Гродне? На нашу думку, яго можна ахарактарызаваць наступным чынам:

1) агульная рэспублікан-ская тэндэнцыя да зніжэння цэнаў;

2) вялікая маржа паміж набыццём і продажам кватэры;

3) значныя прапановы на продаж нерухомай маёмасці;

4) невялікі попыт на «дарагое» жыллё - чатырохпакаёвыя і пяціпакаёвыя кватэры;

5) павелічэнне маржы паміж кватэрамі ў дамах з рознымі гадамі пабудовы: значны прыярытэт новых дамоў.

У цэлым да пачатку лета ў Гродне можна набыць кватэры па наступных коштах **(Гл. табліцу)**.

Як бачым, цэны па-ранейшаму не даступныя большасці грамадзянаў. На самую «танную» аднапакаёвую кватэру (зыходзячы з табліцы) па вуліцах Пушкіна ці Міра беларусу трэба працаваць 22 гады. І гэта пры ўмове поўнага пераліку свайго заробку на аплату кватэры, што, без сумненняў, нерэальна.

Паводле меркаванняў эканамістаў аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», да канца бягучага года кошты яшчэ зменшацца ў сярэднім на пяць працэнтаў. Далейшыя змены цэнаў на кватэры будуць залежаць ад мноства фактараў. У тым ліку, ад «змены» прычынаў, якія абумовілі сённяшні стан справаў на рынку нерухомай маёмасці. Эканамісты цэнтра лічаць, што цэны яшчэ могуць знізіцца толькі ў выпадку рэзкага падвышэння коштаў камунальных паслугаў. Сёння ж цэны на кватэры на аптымальным узроўні, і вялікіх зменаў у бліжэйшыя два-тры гады не прадбачыцца.

**Кацярына Зволін**

# Аўтамабіль: ад раскошы да сродка перамяшчэння

**У апошнія дні траўня ажывіўся гандаль на аўтамабільных рынках краіны. ПАГОНЯ прадстаўляе вашай увазе агляд прапановаў аўтамабіляў на продаж на Гарадзенскім і Менскім аўтамабільных рынках з мінулага тыдня.**

| Марка і мадэль | Год | Растам. | Кошт |
|---|---|---|---|
| Alfa Romeo-33 | 1991 | + | 3000 |
| Alfa Romeo-75 | 1989 | + | 2500 |
| Alfa Romeo-164 | 1991 | - | 3600 |
| Alfa Romeo-164 | 1991 | + | 5400 |
| Alfa Romeo CTV | 1997 | + | 25000 |
| Audi-80 | 1984 | + | 1900 |
| Audi-80 | 1988 | - | 2500 |
| Audi-80 | 1992 | + | 6500 |
| Audi-90 | 1991 | + | 5800 |
| Audi-100 | 1985 | + | 1900 |
| Audi-100 | 1989 | - | 2700 |
| Audi-100 | 1989 | + | 3300 |
| Audi-100 | 1992 | + | 7900 |
| Audi-100 | 1994 | + | 9900 |
| Audi-200 | 1990 | - | 4500 |
| Audi-A6 | 1996 | + | 14000 |
| Audi-A6 | 1998 | - | 19900 |
| BMW-318 | 1987 | + | 2000 |
| BMW-320 | 1991 | + | 7400 |
| BMW-325 | 1985 | - | 1900 |
| BMW-520 | 1990 | + | 5300 |
| BMW-525 | 1989 | - | 3900 |
| BMW-525 | 1992 | + | 7400 |
| BMW-530 | 1993 | + | 11000 |
| BMW-535 | 1993 | - | 10000 |
| BMW-730 | 1992 | + | 10000 |
| BMW-735 | 1990 | + | 10000 |
| BMW-740 | 1995 | + | 26000 |
| BMW-750 | 1990 | + | 12000 |
| BMW-850 | 1993 | + | 21000 |
| Fiat Tempra | 1992 | + | 2800 |
| Fiat Uno | 1988 | - | 1300 |
| Fiat Uno 60SL | 1987 | - | 1400 |
| Ford Mondeo | 1994 | + | 6300 |
| Ford Mondeo | 1998 | - | 9500 |
| Ford Orion | 1991 | - | 2100 |
| Ford Scorpio | 1986 | + | 1900 |
| Ford Scorpio | 1992 | + | 4300 |
| Ford Sierra | 1988 | + | 2400 |
| Ford Sierra | 1992 | + | 3300 |
| Ford Taurus | 1992 | + | 5800 |
| Ford Fiesta | 1993 | - | 2900 |
| Mazda-323 F | 1991 | + | 3200 |
| Mazda-626 | 1987 | - | 1600 |
| Mazda-626 | 1988 | + | 2700 |
| Mazda-626 | 1990 | + | 3300 |
| Mazda-626 | 1992 | + | 5500 |
| Mazda-626 | 1994 | + | 6700 |
| Mazda-626 | 1996 | + | 7900 |
| Mazda-929 | 1989 | - | 2900 |
| Mercedes-200 | 1983 | - | 1800 |
| Mercedes-200 | 1984 | + | 2300 |
| Mercedes-200 | 1988 | + | 5800 |
| Mercedes-200 | 1991 | + | 7500 |
| Mercedes-280 | 1994 | + | 12900 |
| Mercedes-300 | 1990 | - | 7000 |
| Mercedes-300 | 1991 | + | 10000 |
| Mercedes-320 | 1993 | + | 14500 |
| Mercedes-500S | 1985 | + | 8000 |
| Mitsubishi Gal. | 1989 | - | 3900 |
| Mitsubishi Gal. | 1993 | + | 8000 |
| Mitsubishi Pag. | 1996 | - | 9900 |
| Mitsubishi Pag. | 1998 | + | 16000 |
| Opel Astra | 1992 | + | 4900 |
| Opel Astra | 1993 | - | 5000 |
| Opel Vectra | 1991 | - | 4200 |
| Opel Omega | 1987 | - | 1900 |
| Opel Omega | 1988 | + | 2800 |
| Opel Omega | 1989 | + | 3000 |
| Opel Omega | 1991 | + | 4000 |
| Opel Omega | 1995 | + | 8900 |
| Renault-19 | 1992 | - | 3900 |
| Renault-19 | 1996 | + | 6900 |
| Renault Laguna | 1996 | - | 7000 |
| Toyota Land Cruis | 1991 | + | 14000 |
| Toyota Land Cruis | 1996 | + | 20000 |
| Toyota Carolla | 1986 | - | 2000 |
| Toyota Carolla | 1993 | + | 5900 |
| Volvo-440 | 1992 | - | 3500 |
| Volvo-740 | 1989 | + | 2900 |
| Volvo-740 | 1990 | - | 2900 |
| Volvo-760 | 1988 | + | 3500 |
| Volvo-760 | 1990 | + | 4000 |
| Volvo-940 | 1993 | - | 5000 |
| VW Golf | 1988 | - | 1900 |
| VW Golf | 1992 | + | 4900 |
| VW Golf | 1994 | + | 6000 |
| VW Passat | 1989 | + | 3500 |
| VW Passat | 1991 | + | 3900 |
| VW Passat | 1994 | - | 5300 |
| VW Passat | 1994 | + | 6800 |
| VW Passat B5 | 1998 | - | 9900 |
| VW Vento | 1993 | + | 5800 |
| VW Vento | 1994 | + | 6600 |



Фота IREX/ProMedia

Канец траўня - пачатак чэрвеня заўсёды для аўтапрадаўцоў быў пасляховым перыядам часу. Менавіта з надыходам лета многія аўтааматары мяняюць (прадаюць і купляюць) сваіх «жалезных коней). І хаця паводле дадзеных фірмы «Artkes» аўтамабілеабарот з 2 па 24 траўня 1999 года ў параўнанні з такім жа перыядам 1998 года зменшыўся на 37 працэнтаў (у параўнанні з 1996 годам - у чатыры разы), затое адносна красавіка бягучага года колькасць заключаных «аўтамабільных» пагадненняў павялічылася ў паўтара разы.

Зараз ужо у кожным абласным цэнтры і сталіцы Беларусі ёсць аўтамабільны рынак. Аднак асаблівай папулярнасцю карыстаюцца толькі тры: Брэсцкі, Гарадзенскі і Менскі. Усе яны вабяць патэнцыйных пакупнікоў аўтамабіляў адносна невысокімі коштамі ў параўнанні з Магілёвам, Віцебскам і Гомелем. Сталічны аўтамабільны рынак сёння безумоўны лідар па колькасці выстаўляемых на продаж аўтамабіляў. Чаргу на аўтарынак займаюць яшчэ з вечара... Большасць гарадзенскіх аўтапрадаўцоў аддаюць перавагу з'ездзіць тры-чатыры разы (калі пашанцуе - адзін) у Менск, чым два-тры месяцы ганяць свой аўтамабіль у Аульс. Колькасць патэнцыйных пакупнікоў у сталіцы ў дзесяць разоў большая, чым у Гродне. Прычыны: мільённы горад; блізкасць да Расійскай Федэрацыі, Гомелю, Магілёву і Віцебску; больш разнастайныя прапановы на продаж; параўнальна тоесныя цэны на аўтамабілі ў Гродне і Менску.

У сувязі з гэтым, на наш погляд, будзе больш правільным прадставіць дадзеныя па прапановах аўтамабіляў на продаж на аўтамабільным рынку горада Менска з мінулага тыдня. Бо выстаўлены на продаж аўтамабіль ў Гродне можна за такія ж грошы набыць і ў Менску. **(Звернем увагу на табліцу).**

Як бачна з табліцы, больш як 70 працэнтаў аўтамабіляў, выстаўленых на продаж - растаможаныя. «Сярэдні ўзрост» тавара шэсць-сем гадоў. Большасць прапановаў на продаж - VW, Audi, Mazda, Opel. Крыху менш - Ford, Mercedes, BMW. Кошты на аўтамабілі, у параўнанні з красавікам, змяніліся нязначна: патаннелі на 34 працэнты VW, Mazda і Opel.

Асаблівасцю апошняга аўтарынка Менска фірма «Artkes» лічыць надзвычай вялікую прапанову зусім новых аўтамабіляў. Цэлыя шэрагі былі запоўнены «Жыгулямі», VW, Mazda ды іншымі «нулёвымі» аўтамабілямі. ПАГОНЯ ў бліжэйшых нумарах азнаёміць чытачоў са станам справаў на рынку новых аўтамабіляў.

Рынак жа патрыманых аўтамабіляў нарэшце ажывіўся. Хочацца спадзявацца, што прадаўцам зараз стане лягчэй (хутчэй) прадаць свае аўтамабілі, а пакупнікам набыць, і да таго ж, танней. Галоўнае, каб дзяржаўныя органы зноў што-небудзь не змянілі. Савет Міністраў за апошнія паўтара года сваімі пастановамі ажно чатыры разы мяняў правілы «растаможкі»! Наогул, узрушэнняў нам не трэба, няхай аўтамабіль для кожнага грамадзяніна рэспублікі будзе не раскошай, а сродкам перамяшчэння.

**Сяргей Міронаў**

 

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Што адбылося на Беларусі

## (развагі з нагоды апошняй прэзідэнцкай кампаніі)

### Старт дзіўнай кампаніі

Сапраўды, прэзідэнцкая выбарчая гонка пачалася даволі дзіўна. Хаця не. Пачалася яна якраз нармальна, з зусім натуральнага і законнага прызначэння Вярхоўным Саветам краіны даты чарговых прэзідэнцкіх выбараў на 16 траўня 1999 года і аднаўлення дзейнасці ЦВК пад кіраўніцтвам В.Ганчара. А дзівосы пачаліся крыху пазней, калі Аб'ёднаная Грамадзянская Партыя вырашыла трымацца на дыстанцыі ад распачатай ёй жа прэзідэнцкай кампаніі. (Нагадаю, што гэта тая самая партыя, якая мае большасць у ВС 13-га склікання і ў склад якой уваходзіць ужо згаданы Віктар Ганчар.) Інакш кажучы, падаўшы старт выбарчай гонцы, АГП адразу з дыстанцыі збочыла. Фармальна з-за таго, што З'езд партыі так і не здолеў вызначыцца адносна падтрымкі канкрэтнага кандыдата ў прэзідэнты і прыняў рашэнне аб перакладанні гэтага выбару, а таксама пытання пра ўдзел-няўдзел у рабоце выбарчых камісій на плечы сваіх рэгіянальных структураў і першасных арганізацыяў. Такая пазіцыя партыі сталася вынікам не толькі глыбокіх аб'ектыўных, але і суб'ектыўных прычынаў. У прыватнай размове з двума сябрамі палітсавету АГП мне давялося пачуць меркаванне, што пазіцыя партыі тлумачыцца не ў апошнюю чаргу тым, што «Ганчар авантурыст, з якім нельга мець справу».

Тым не менеей рашэнне АГП застацца ў цені падчас важнейшай палітычнай акцыі не насцярожыла іншых яе ўдзельнікаў. Наадварот, ва ўмовах адсутнасці канкурэнцыі з боку АГП Беларускі Народны Фронт узяў ініцыятыву па стварэнні тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта на сябе, што адразу было адзначана грамадскасцю: «БНФ захапіў выбарчыя камісіі». Гэта пры тым, што паўсюдна сябры АГП адмаўляліся ад прапановаў узначаліць гэтыя камісіі, хаця і не заўсёды адмаўляліся ўвайсці ў склад камісіяў у якасці шэраговых сябраў.

Не менш дзіўнай аказалася і пазіцыя ВС РБ, які таксама фактычна трымаўся ад распачатай ім жа прэзідэнцкай кампаніі на дыстанцыі і не толькі ні разу не ўмяшаўся ў яе ход, але нават не паспрабаваў сабрацца, каб абмеркаваць сітуацыю, што склалася.

Такім чынам, амаль адзінай цяглавай палітычнай сілай, якая на самой справе рухала выбарчую калясніцу, быў БНФ, а кіраваў экіпажам, трымаючы лейцы ў руках, дасведчаны наменклатурны рамізнік Віктар Ганчар (між іншым, былы віцэ-прэм'ер ураду А.Лукашэнкі). Пагадзіцеся, што кампанія даволі дзіўная, і для Фронту небяспечная.

Не менш дзіўная кампанія падабралася і ў стане апазіцыйных (іншых не было) кандыдатаў у прэзідэнты. Шырокай дэмакратычнай грамадскасці прапанавалася зрабіць выбар паміж заўзятым дэмакратам, руплівцам беларушчыны, паслядоўным незалежнікам экс-прэм'ерам ураду А.Лукашэнкі Міхаілам Чыгіром (!) і вядомым палітэмігрантам, лідарам БНФ у выгнанні, раней прыстойным чалавекам, а цяпер баязліўцам і нарцысам, змагаром з жанчынамі Зянонам Пазьняком. (Гэты абзац трохі ўтрыраваны, але з большага правільна перадае асноўны тон асвятлення пазіцый і асобаў кандыдатаў у незалежнай прэсе падчас прэзідэнцкай гонкі.)

Дзіўна, але факт: незалежнай прэсе і зацікаўленым асобам удалося хутка і лёгка з паплечніка Лукашэнкі М.Чыгіра зрабіць свядомага і паслядоўнага апазіцыянера. А яшчэ кажуць, што толькі БТ умее маніпуляваць грамадскай свядомасцю.

Адначасова арганізатары акцыі на шматлікіх сустрэчах з палітычна актыўнай грамадскасцю канфедыцыйна паведамлялі, што акцыя надзвычай сур'ёзна падрыхтаваная, што плануецца непасрэдны ўдзел у ёй наменклатуры, якая вельмі незадаволеная дыктатарам і толькі чакае штуршка, каб адкінуць сваё ганебнае мінулае, выправіцца, стаць на шлях законнасці і сумленнай працай на карысць ЦВК і свайго кандыдата Чыгіра загладзіць віну перад беларускім народам. Таму менавіта Міхаіл Чыгір - прахадны кандыдат, бо ён той, каго падтры-мае наменклатура.

### На дыстанцыі

Спачатку усё ішло гладка. Пры самым актыўным удзеле сябраў БНФ сетка тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта краіны хутка і шчыльна пакрыла Беларусь. Праўда, сумесных апазіцыйных сілаў хапіла толькі на стварэнне абласных, гарадскіх і раённых камісіяў. Што ж тычыцца камісіяў участковых, дык амаль нідзе іх стварыць не ўдалося. Пасля таго, як ЦВК, у адпаведнасці з законам, перадала выканаўчай уладзе пратаколы аб вылучэнні людзей у камісіі, вертыкаль (замест таго, каб зацвердзіць склад камісіяў і падключыцца да выбараў) распачала рэпрэсіі адносна ўдзельнікаў выбарчай кампаніі. З гэтага моманту выклікі ў пракуратуру, да следчага, адміністрацыйныя штрафы, арышты, вобыскі сталі паўсядзённай рэчаіснасцю для ўдзельнікаў выбарчага працэсу. Найбольш пашанцавала беспрацоўным сябрам камісіяў і тым, хто ў пратаколах вылучэння дальнабачна выдаў сябе за беспрацоўных. У іх не было праблемаў на працы. Так рухнуў міф аб гатоўнасці наменклатуры ўзяць удзел у выбарчай кампаніі і падтрымаць свайго кандыдата М.Чыгіра.

Тым часам ініцыятыўныя групы па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты заняліся зборам подпісаў у падтрымку сваіх лідараў. Каманду Чыгіра склалі ў асноўным «сацдэмы» і «агэпэшнікі», Пазьняка - у асноўным «бэнэфаўцы» і часткова «агэпэшнікі». У прызначаны час неабходная колькасць подпісаў была сабраная, і ЦВК афіцыйна зарэгістравала Пазьняка і Чыгіра кандыдатамі ў прэзідэнты РБ. Але этап збору подпісаў не абышоўся без спробаў фальсіфікацыяў. Так, у Гомелі старшыні раённых выбарчых камісіяў (усе сябры БНФ) на працягу некалькіх тыдняў патрабавалі, каб у адпаведнасці з законам кіраўнік ініцыятыўнай групы Чыгіра «сацдэк» Б. прад'явіў жывым хаця б аднаго чалавека з тых, якія сабралі ў Гомелі 6 тысяч подпісаў у падтрымку свайго кандыдата, каб ён (яны) мог (маглі) у прысутнасці сябраў камісіі паставіць свой аўтограф у подпісных лістах. На што спадар Б. вельмі злаваўся, пагражаў сябрам камісіяў звальненнем, але прад'явіць жывым змог толькі сябе. Не менш жорсткія, але абсалютна законныя патрабаванні былі прад'яўлены ў Гомелі і да ініцыятыўнай групы Пазьняка.

Думаю, што менавіта на этапе збору подпісаў за кандыдатаў многім на Беларусі стала зразумела, што Беларускі Народны Фронт кінуўся ў прэзідэнцкую гонку не без пэўных умоваў. Наадварот, некалькі разоў у рашэннях свайго Сойму Фронт адзначыў, што «зробіць усё, каб выбарчая кампанія адбылася адпаведна заканадаўству:» і папярэдзіў сябраў БНФ, што ў ходзе кампаніі яны павінны «строга прытрымлівацца заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якое мае прыярытэт пры любых варунках». Наступныя падзеі пацвердзілі, што гэтыя заявы для сябраў арганізацыі, у чыёй Праграме запісана «БНФ КАЖА ЛЮДЗЯМ ПРАЎДУ» не пусты гук, а кіраўніцтва да дзеяння.

Рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты стала зручным момантам для падвядзення некаторых вынікаў кампаніі, якія маглі б стаць падставай для прыняцця адэкватнага рашэння пра яе далейшы лёс. Для большасці ўдзельнікаў і аб'ектыўных назіральнікаў працэсу было зразумела, што некалькі пастаўленых перад ёю задачаў выбарчая кампанія ўжо вырашыла:

- выкананы патрабаванні Канстытуцыі і Закона аб выбарах прэзідэнта РБ, прызначана дата прэзідэнцкіх выбараў і адноўлена дзейнасць ЦВК;

- прадэманстравана сіла і стойкасць апазіцыі, яе здольнасць сфармаваць аналаг уладнай вертыкалі і мужна супрацьстаяць рэпрэсіям з боку рэжыму;

- народу Беларусі і ўсяму свету было паказана, што Лукашэнка не жадае развітвацца з уладай, байца дэмакратычных выбараў і ўласнага народа, рэпрэсуе сумленных людзей, якія проста выконваюць свой грамадзянскі абавязак.

Разам з тым было зразумела, што ва ўмовах, якія склаліся, рэальнага ўсенароднага галасавання арганізаваць не ўдасца. Было таксама зразумела, што любыя вынікі галасавання не будуць прызнаны міжнароднай супольнасцю: АБСЕ не прыслала сваіх назіральнікаў, як і спецыяльных машын для арганізацыі стацыянарных участкаў для галасавання.

Натуральным і чаканым выйсцем з гэтай сітуацыі магло б стаць рашэнне Вярхоўнага Савета і ЦВК аб часовым прыпыненні выбарчай кампаніі ў сувязі з масавымі рэпрэсіямі ўладаў супраць яе ўдзельнікаў. Аднак такое рашэнне, відаць, не ўваходзіла ў планы Віктара Ганчара, які дэманстраваў намер працягваць выбарчую кампанію, не зважаючы на рэпрэсіі, здаровы сэнс, палітычную мэтазгоднасць і, як стала вядома пазней, на закон і сумленне.

ЦВК прыняў рашэнне аб татальным 10-дзённым галасаванні (з 6 па 16 траўня 1999 года) з дапамогай пераносных скрыняў, што сумніўна з пункту гледжання закона, які дазваляе такі спосаб галасавання толькі для асобных катэгорый грамадзянаў. Звароты Сойму БНФ з прапановай «прыспешыць вызначэнне канкрэтных месцаў галасавання ў дзень выбараў 16 траўня» ЦВК ігнаруе. Больш таго, ЦВК, насуперак закону, заяўляе пра непрызнанне вынікаў галасавання, калі яно адбываецца на стацыянарных выбарчых участках!!!

Пасля 6 траўня падзеі разгортваюцца хутка і фатальна. Многія ўдзельнікі працэсу пачынаюць разумець, што намаганнямі ЦВК кампанія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь незваротна пераўтвараецца ў кампанію па публічнай дыскрэдытацыі Беларускага Народнага Фронту і ўсёй дэмакратычнай апазіцыі ў вачах беларускага народа і міжнароднай супольнасці. ЦВК з упартасцю, вартай лепшага выкарыстання, пачынае выдаваць у прэсу дутыя і неверагодныя лічбы нібыта прагаласаваўшых грамадзянаў. Прыкладам, у Гомелі нават 15 траўня яшчэ не было ніводнага выбарчага бюлетэня, і ўсяго некалькі тысяч бюлетэняў было перададзена ў некаторыя раёны вобласці, але ўжо 12 траўня ЦВК інфармавала грамадскасць, што на Гомельшчыне прагаласавала 23% выбаршчыкаў. 13, 14, 15, 16 траўня гэтая лічба няўхільна павялічвалася ЦВК; пры тым, што ніякага галасавання не адбывалася ўвогуле. Падобная карціна (з пэўнымі варыяцыямі) назіралася і па ўсёй Беларусі.

У такіх умовах многія сябры БНФ палічылі немагчымым для сябе браць удзел у ашуканстве і фальсіфікацыях. Па ўсёй краіне пайшоў працэс выхаду сябраў БНФ з выбарчых камісіяў. Так, 12 траўня Рада Гомельскай гарадской арганізацыі БНФ адклікала сваіх прадстаўнікоў з усіх выбарчых камісіяў горада і прапанавала астатнім фронтаўцам скласці з сябе паўнамоцтвы сябраў камісіяў. Дарэчы, да гэтай парады прыслухаліся не толькі фронтаўцы, але і сябры іншых арганізацый, якія напісалі заявы аб выхадзе са складу камісіяў. Адначасова Рада выступіла з адкрытым пратэстам супраць дзеянняў ЦВК і звярнулася да Зянона Пазьняка з прапановай зняць сваю кандыдатуру і адмовіцца ад далейшага ўдзелу ў кампаніі па выбарах прэзідэнта РБ.

Фактычна толькі так, праз выхад з камісіяў, сябры БНФ маглі захаваць сваё сумленне, адмежавацца ад фальсіфікацыяў, уратаваць Фронт ад дыскрэдытацыі і выканаць пастанову Сойму («зрабіць усё, каб выбарчая кампанія адбылася ў адпаведнасці з заканадаўствам»), а таксама выканаць палажэнне сваёй Праграмы («БНФ КАЖА ЛЮДЗЯМ ПРАЎДУ»). Гэта і было зроблена.

### Дзіўны фініш кампаніі

Такім чынам, на фінішы прэзідэнцкай кампаніі, якая пачалася як цалкам законная і палітычна неабходная акцыя, але была ператворана ў брудную справу, ЦВК аказалася без аднаго кандыдата ў прэзідэнты, амаль без выбарчых камісіяў, без БНФ, але ў атачэнні той хлусні і татальных фальсіфікацыяў, што спарадзіла сама ЦВК. Другі кандыдат, Міхаіл Чыгір, увогуле апынуўся за кратамі і на цяперашні час выглядае сапраўднай ахвярай авантуры. Наўрад ці ён будзе вельмі суцешаны паведамленнем ЦВК пра абранне яго фальшывым прэзідэнтам.

### Вынікі кампаніі

Па-першае, сфальсіфікаваныя ЦВК вынікі галасавання не могуць быць прызнаныя ні ўдзельнікамі кампаніі, ні БНФ, ні міжнароднай супольнасцю. Але самае галоўнае, што яны не могуць быць прызнаны беларускім народам, які рэальна не прымаў удзел у галасаванні. Па-другое, ЦВК і яе кіраўнік В.Ганчар поўнасцю дыскрэдытавалі сябе ў ходзе выбарчай кампаніі і павінны цяпер сысці ў адстаўку. Па-трэцяе, Беларускі Народны Фронт засведчыў, што ён палітычная сіла, якая ў любых умовах гаворыць народу праўду і дзейнічае з сумленных пазіцыяў. Фронт не дазволіў запляміць сябе і ўратаваў ад ганьбы ўсю дэмакратычную апазіцыю. Па-чацвёртае, спадзяванні на вырашэнне сур'ёзных палітычных задачаў з дапамогай наменклатурных тусовак былі і застаюцца дарэмнымі. І гэта трэба асабліва добра ўсвядоміць.

Можна, канешне, яшчэ казаць пра набыты ўдзельнікамі кампаніі досвед, прыгадаць тыя вынікі, што згаданы мною ў раздзеле «На дыстанцыі». Можна знайсці і нямала адмоўных вынікаў. Сярод якіх: пэўная разгубленасць у стане дэмакратычнай апазіцыі, непаразуменні ўнутры БНФ, натуральная незадаволенасць антылукашэнкаўскага электарата, якому абяцалі перамогу, і г.д. Але мне здаецца, што няма сэнсу і нават неразумна самім «раскручваць» і смакаваць адмоўныя вынікі ды замацоўваць у сябе і грамадскасці комплекс непаўнавартасці. Іншая справа, што ўсе памылкі павінны быць прааналізаваныя і ўлічаныя для таго, каб больш іх не паўтараць.

### Дык што ж усё-ткі адбылося на Беларусі

Пад выглядам правядзення кампаніі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь адбылася спроба выкарыстаць нацыянальна-дэмакратычны патэнцыял краіны дзеля стварэння і раскруткі па сутнасці прарасійскай каланіяльнай «апазіцыі», як адзінай альтэрнатывы каланіяльнаму дыктатарскаму рэжыму Лукашэнкі. Адначасова планавалася дыскрэдытацыя, раскол і дэзарыентацыя нацыянальна-вызвольнага руху, які павінен быў страціць давер народа і надоўга пакінуць палітычную арэну краіны. Намаганнямі БНФ гэтыя планы былі разбураныя.

Я вельмі далёкі ад думкі, што ўсе ўдзельнікі і наават арганізатары акцыі ад пачатку ведалі пра яе добра закамуфляваную сутнасць. Наадварот, для многіх сутнасць праекту нечакана раскрылася толькі ў працэсе яго ажыццяўлення, для некаторых асэнсаванне прыйдзе яшчэ заўтра.

**Уладзімір Старчанка**

**P.S.:** ***Карыстаючыся нагодай, хацеў бы звярнуць увагу на адну недарэчнасць, якая ў значнай ступені садзейнічае дэзарыентацыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху і незалежніцкага электарата на палітычнай прасторы, і гэтым стварае ўмовы для выкарыстання яго патэнцыялу ў антыбеларускіх мэтах.***

***Дагэтуль самай шырокай грамадскасці невядома, хто супрацьстаіць нацыянальна-вызвольнаму руху (НВР) у ажыццяўленні яго высакародных мэтаў, хто перашкаджае яму адраджаць нацыянальную культуру беларусаў, хто перашкаджае будаваць сапраўды незалежную, квітнеючую, дэмакратычную дзяржаву Беларусь; і каму, урэшце рэшт, супрацьстаіць НВР. За 11 гадоў беларускай рэканкісты адказаў на гэтыя пытанні было шмат, і ўсе яны былі нездавальняючымі. Спачатку ворагамі былі камуністы (Малафееў, Сакалоў, Камай...), пазней камуністы і наменклатура (Кебіч). У выніку на першых прэзідэнцкіх выбарах электарат не галасаваў за камуністаў (Новікаў), не галасаваў за наменклатуру (Кебіч), а галасаваў за простага старшыню саўгаса Лукашэнку. Электарат і цяпер яшчэ не можа ўцяміць, у чым была яго памылка.***

***Практыка паказвае, што пры такіх падыходах не толькі Чыгір або Ганчар, але і Замяталін (калі дыстанцыруецца ад Лукашэнкі) мае шанцы стаць альтэрнатыўным кандыдатам і атрымаць падтрымку не толькі дэзарыентаванага электарата, але і НВР.***

***Між тым адказ на пастаўленыя вышэй пытанні гучыць выключна проста і натуральна: на Беларусі Нацыянальна-вызвольнаму руху ўжо 200 гадоў супрацьстаіць каланіяльная адміністрацыя, якая ў розныя часы прымае розныя іпастасі. І гэта не ёсць спецыфіка нашай краіны, бо ва ўсім свеце НВР супрацьдзейнічае каланіяльная (акупацыйная) адміністрацыя. Аўтару гэтых радкоў даводзіцца ўжо восьмы год прапагандаваць гэты цалкам натуральны тэзіс. Можна выказаць толькі шкадаванне, што ўсе мы ідзём да разумення такой простай ісціны ўжо 11 гадоў!***

***Здольнасць каланіяльнай адміністрацыі да мімікрыі не павінна нікога ўводзіць у зман. Каланіяльная адміністрацыя мімікрыруе і памнажаецца «пачкаваннем», гэта яе спосаб самазахавання. Ужо шмат гадоў мы павінны былі б выпрацоўваць у насельніцтва імунітэт да любых праяваў імперыялізму (у тым ліку і расійскага), каланіялізму (у тым ліку і расійскага), фашызму (у тым ліку і расійска-славянскага). Толькі нацыянальна свядомае і прыйтае ад каланіялізму насельніцтва змагло б лёгка знайсці агульныя рысы ў антыбеларускай палітыцы і высвеціць аднолькавую каланіяльную сутнасць «нацыянальных лідараў» кшталту Суворава, Мураўёва-вешальніка, Мяснікова, Кнорына, Чарвякова, Цанавы, Панамарэнкі, Машэрава, Сакалова, Малафеева, Кебіча, Лукашэнкі ды ім падобных.***

***Таму вельмі важна выкарыстоўваць у палітычнай барацьбе адпаведную і дакладную тэрміналогію з тым, каб пазбавіць ворага манеўру, не ўводзіць людзей у зман і не траціць сілы на змаганне з паветранымі млынамі. Прыкладам, галоўная палітычная задача, якая стаіць цяпер перад беларускім народам і яго НВР, гучыць так: адхіліць ад улады каланіяльную адміністрацыю і замяніць яе нацыянальным урадам. Нельга поўнасцю падмяняць яе лозунгамі кшталту «Далоў камуністаў», «Далоў Лукашэнку». Бо НВР змагаўся з Сакаловым і змагаецца з Лукашэнкам не таму, што першы - камуніст, а другі - «саўгаснік», а таму, што абодва яны праводзяць антыбеларускую, каланіяльную палітыку.***

***Выкрыццё сутнасці каланіяльнай палітыкі цяперашняй улады, тлумачэнне механізмаў яе дзейнасці і стратэгіі, якія яна нясе беларусам, з'яўляецца важнай часткай штодзённай работы НВР.***

